## БЕЛЫ БЯРЭЗНІК

Бярозкі, бярозкі... І кожная ў белым,
І постаццю кожная як на падбор.
Глядзіш — і здаецца, ну, чым не капэла?
Чаго ты чакаеш? Прыходзь, дырыжор.

Але дырыжор не прыходзіць.
Густая
Ў сто тысяч ствалінак капэла маўчыць,
І голлем раз-поразу цяжка ўздыхае,
Не могучы ціхую крыўду змагчы.

Не могучы сцерпець няроўнае долі,
Не могучы ўцяміць: законам чыім —
Ад некага сонца заслонена голлем,
А некаму — вечна раскошвацца ў ім.

Пры долі ж няроўнай — няроўныя сілы:
Высока і стройна ўзнялася адна,

Другую ж... віхура
                         ў час буры
                                    скрывіла,
Зламала — зачахла дачасна яна.

Адной красавацца, піць дужыя сокі,
Другой жа... дачасна сыходзіць на скон...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А гэтак жа міла бялеюць здалёку,
Накінуўшы хусткі зялёныя крон.

***1974***

## ЯБЛЫНЯ

Хто на вяку задужа крыўд зазнае,—
Не зробіць бліжняму ніякае бяды...
Вось так і ты заўсёды нам скідаеш
Не гаркату, а спелыя плады.

Ты на благіх і добрых нас не дзеліш —
Хоць сярод нас нямала і благіх —
І скальпелем нястрачанай надзеі
Здымаць стараешся бяльмо з вачэй у іх.

Дзіўлюся я, маўчу і спачуваю...
Яны ж табе так часта робяць зло —
І голле ломяць, палкамі збіваюць
Усё, што быць даспеленым магло.

Ні перад чым не спыняцца на хвілю,
Бо бескарыслівасць у гэткіх — не ў цане.
Як і табе, яны не раз плацілі
Падобным чынам, яблыня, і мне.

Здаўна для іх не пісаны законы,
Іх душы — непраглядная імгла...
І, можа, свет пракляў бы я праклёнам,
Калі б не ты, што кожны год цвіла.

*1974*

## ЛЯ ПОМНІКА ЯНКІ КУПАЛЫ

З дарожным кіёчкам
паглядам імкліва
Ўзіраецца ў далеч
між кронамі ліп...
Іван Дамінікавіч!..
Доўга ж ішлі вы
Сюды ад палеткаў,
ад бедных сядзіб.

Глыбокія зморшчыкі —
знакі пакутаў,—
Як сцежкі,
ляглі
на абветраны лоб:
Хто іх вам не блытаў,
хто імі не путаў,
Якіх толькі ямаў
на іх не было.

Аднак жа ішлі
напрасткі, цераз поле,
Паліла спякота,
студзіла зіма;
Ішлі, не абходзячы
ямаў ніколі,—
Бяз'ямнай дарогі
паэтам няма.

Вы ведалі:
гора жыцця
не асіліш
Пустым нараканнем
ці грознай кляцьбой.
Пакуль не пастаўлены
крыж над магілай —
Ні дня замірэння
з жыццём
і з сабой.

Ці шмат вам зазнаць давялося,
ці мала,—
Нікому не скажаце вы,
маўчыцё...
І толькі
адлітая песня ў метале
Ніколі ўслаўляць
не пакіне жыццё.

Ніколі не стане
        шукаць засцярогі,
Не збочыць,
        калі ёй насустрач бяда.
Таму не канчаюцца
        вашы дарогі,
А тым, хто ў дарозе,
        далёка відаць...

*1973*

* * *

Мне кажуць: «Ты не дыпламат —
Што думаеш, гаворыш тое».
А я не крыўджуся — я рад,
Хіба ж раблю я што благое?

Хто наслядзіў, хай той і вытра,
Як кажуць, спраў не абязліч.
А дыпламатыя — то ж хітрасць,
Свіння — але хавай свой лыч.

Ты гоніш некага за дзверы,
А робіш выгляд, ягамосць,
Што вы́гнаны павінен верыць,
Нібы ён твой найлепшы госць.

Якую ж трэба мець натуру,
Хрыбет гумовы, слізкі лоб,
Каб кожны раз віхляць, абдурваць,—
І ўсё не за ману сышло б.

Не гнуся кволаю ракітай,
Не насылаю ка́рай град...
Што думаю — кажу адкрыта.
Які ж тады я дыпламат?

*1974*

## СУСТРЭЧА З РАДЗІМАЙ

Заапаркі ФРГ экспартуюць афрыканскіх сланоў у... Афрыку.
З газет

Ледзь толькі на бераг ступілі яны,
Ледзь спёку пустэльні адчулі,—
Як збіліся ў гурт і прыціхлі сланы,
Нібы не туды іх вярнулі.

У даль,
дзе гусцее смугі пеляна,
Ўзіраюцца пільна вачыма:
Якая ж на выгляд,
на ласку яна —
Іх добрая продкаў радзіма?

І тое жывое,
што вабіла там,—
У яркасці меркне і тае...
Амаль незнаёмай здаецца сланам
Іх Афрыка ў снах залатая.

І хоць не становяцца яваю сны —
На гэта свая ёсць прычына...
У яву нясмела ступаюць сланы,
А ў сны пераходзіць чужына.

*1974*

## МАЦІ

З тае пары, як гэты свет
Зрабіўся небам і зямлёй,
А ў свеце столькі крыўд і бед —
Няма ў душы спакою ёй.

Пакуль маленькі сын — карціць
У час яго і накарміць,
У час памыць, пакласці спаць
І, пеючы, закалыхаць.

А падрасце — і не кажы —
Хвалюйся зноў, ізноў дрыжы,
Каб быў адзет ён і абут,
Каб убярогся ад прастуд.

Нарэшце, вырас — дуж, як дуб...
І не адной табе ўжо люб.
І тая, што яму адна,
Нявесткай робіцца яна.

Ты з ног збіваешся зусім,
Каб толькі добра было ім,
Каб шчасце іх не знала меж.
Ты іхняй радасцю жывеш.

Ужо з тваіх не сходзіць рук
Унучка кожная і ўнук:
То іх кармі, то калышы...
Адкуль жа будзе для душы

Ён, той спакой.
Пакуль ёсць свет —
Зямля і неба над зямлёй,
А ў свеце столькі крыўд і бед...
Спакой для маці — не спакой.

*1974*

## У СТАКГОЛЬМСКІМ МУЗЕІ СКУЛЬПТАРА МІЛЕСА

Дарога віецца,
ўзбягае на ўзгорак.
Вось дом, дзе тварыў ён.
Адсюль, з вышыні,
Відаць, як злуецца
халоднае мора,
Як цяжка ўтрымацца
яму ў цішыні.

Яно і пры ім
неаднойчы штарміла,
Каціла на бераг
успенены гнеў
За крыўды,
за болі людскія,—
іх Мілес
І сам нацярпеўся.
Калі ж зразумеў,

Што нават яго
пакідае цярплівасць
І нават яму
дужых сіл нестае
Адолець праклятую
несправядлівасць,—
Душою памкнуўся
ўцячы ад яе.

З пары неспакойнае той
і па сёння
Ірвуцца ў нябёсы,
ў сінечу без хмар
Крылатыя людзі,
крылатыя коні,
Крылатае племя
няспраўджаных мар.

Глядзіш —
і нясцерпна
карціць запытацца:
— Куды ж вы?
Няўжо
сваёй роднай зямлі
Вы гэтак спакойна
маглі адцурацца?
Нібыта ніколі
на ёй не жылі?

Нібыта
    не вам яна
    кожнага году
І сэрца і ласку
    з дабром аддае?
І можна аднойчы...
    і ўжо назаўсёды
Пакінуць,
    зусім не змяніўшы яе?

*1974*

* * *

Віселі ўчора, як медалі,
Лісты — адно што позірк цеш,
А сёння долу ўсе апалі.
І, як па золаце, ідзеш.

Шуршыш. А водгалас трывожна
Не пакідае ўсё шаптаць:
«Не наступі — будзь асцярожны,
Няможна золата таптаць».

Табе і я сказаў бы тое
Пра пачуццё сваё без меж:
Яно, як лісце залатое,—
Не наступі — па ім ідзеш.

*1974*

## І ХВАЛЯВАЎСЯ, БЕДНЫ, Я...

І хваляваўся, бедны, я...
Цягнуўся доўгім годам час,
Але чакаў, і ўсё стаяў,
Як і тады —
У першы раз.

Агонь прытушаных надзей
То ўспыхваў полымем, то гас:
«Няўжо і сёння падвядзе,
Як і тады —
У першы раз».

Сыграць завучаную роль
Няцяжка ім для слабых нас...
Ім што?
Абы прынесці боль...
І ўсё —
Нібыта ў першы раз.

І ўпершыню я злосць сваю
Не выстаўляю напаказ...
І хоць чакаю і стаю,
Затое ўжо —
Апошні раз.

*1974*

* * *

Ты бачыла, як нетаропка
Вясельны дзеляць каравай...
Таму і я не стаўлю кропку
І не кажу табе: «Бывай...»

Бывае — западае клавіш,
Няўжо ж — давай яго ламаць?..
Бо, што зламана,— не прыставіш,
А на зламаным — як іграць?

За боль не дакарай дакорам,
Жывое хутка зажыве.
Бо нават перасохлы порах
Спярша дыміцца — потым рве.

Твая ж душа яшчэ, напэўна,
Не стала порахам сухім,
І ўспышкі беспрычыннай рэўнасць,
Ні больш ні менш — той першы дым.

І тая, першай крыўды, кропля,
Што не засмужыць небакрай.
Таму і стаўлю я шматкроп'е,
І не кажу табе: «Бывай».

*1974*

## МОЙ КРАЙ

Ты меркаю трайною
Піў горкае да дна...
Хто б ні ішоў вайною,
Цябе не абмінаў.

Сады, пасевы нішчыў,
Таптаўся па касцях.
Дымамі папялішчаў
Твой сіні дах прапах.

Акопы на пагорках —
Тваёй бяды вянкі.
Наслухаўся гаворкі
Чужой ты за вякі!

Хто толькі не няволіў!
І хоць крывёй сцякаў,
Але да рабскай долі
Ніяк не прывыкаў.

На доўгіх скрыжаваннях
Шляхоў, дзяржаў, эпох
Штодня ты жыў змаганнем —
І тым сябе збярог.

*1974*

## ПЕРАД ЗАКРЫТЫМ ПЕРАЕЗДАМ

Яшчэ цягнік і не відзён,
Не кружыць пыл клубамі,
А ўжо чырвоным вокам ён
Нацэліўся, шлагбаум.

І вока, быццам бы крывёй
Бычынаю наліта,
Глядзіць упартым зіркам: «Стой!»
Дарога перакрыта!

А мо праскочыць бы?.. Але ж...
Не рушаць сцен ілбамі.
Хоць і хацеў бы — не нырнеш,
Пад спушчаны шлагбаум.

На скрыжаваннях лют і строг
Ён — вартавы закону.
А колькі ж іх, людскіх дарог,
Крыжуецца штодзённа!

І колькі ж там душэўных спрэс
Здараецца аварый!..
Шкада, што гэты пераезд
Нічым не закрываем...

*1974*

## ТРЫПЦІХ ПАМЯЦІ ПУШКІНА

### Куля Дантэса

Няйнакш, як рукою злою
Цябе адлівалі для зла,
Знарок рабілі такою,
Каб іншаю быць не магла.

Іншаю... Сіламі ўсімі
Кляну цябе да хрыпаты
За тое адно, што не міма
Тады праляцела ты,
Што нават не рыкашэтам,
Крануўшы яго, загула,
А вобзем зваліла паэта...
Як ты магла?!

Знала ж: дантэсаў — зграя,
А Пушкін — толькі адзін.
Знала...
І вось памірае
Ён...
Сорак шэсць гадзін.

Сорак і шэсць са смерцю
Б'еցца...
Згасае свет...
Кожны б гатоў памерці,
Толькі б жыў ён, паэт.

Ён!.. Бо ніхто не завершыць
Спраў, не завершаных ім...
...Вечна страляе першым
Зло, а дабро — другім.

Вечна дабра інтарэсы
Трэба сабой бараніць...
Рвецца цярпення ніць...
Будзьце ж пракляты, дантэсы!

### Неадпомшчаны боль

Балюча маўчыць справядлівасць людская —
За смерць нічыя не паплоціцца кроў...
І толькі над целам паэта рыдае
Расія слязьмі Наталі і сяброў.

Рыдае. Няўцешная крыўда глыбока
Ўваходзіць у рускія сэрцы, як нож...
Застыла ў здзіўленні прытворным,
што ў шоку,
Расія вяльмож.

Не хоча,
не можа пыхлівае кодла
Уцяміць жахлівых падзей...
Яму і забойства паэта — не подласць,
І нават забойца — яшчэ дабрадзей.

Спрабуюць яго абяліць пасквілянты,
Выпрошваюць нават спагаду двара,—
Таму найвышэйшая воля цара
Расправаю падае — на секунданта.

Забойцу ж... на мяккіх рэсорах карэта
Імчыць пад ахову нянашых зямель,
Адкуль нават помста за гібель паэта
Не мае правоў выклікáць на дуэль.

А тут,
дзе забойца быў ласкай прыгрэты,
Дзе сыпаў на раны нягойныя соль,
Навек застаецца нашчадкам паэта
Вялікі яго неадпомшчаны боль.

## Пушкінская бярозка

Відаць, не толькі для паэтаў,
Не для пацех ці першых слёз,
Нібы праклён самога свету,
Ён існаваў, фатальны лёс.

Яго бязлітасная жорсткасць
Няўмольным злом не абышла
Бярозку белую ў Трыгорскім,
Што ў парку ў зацені расла.

Было даволі пані змераць
Нядобрым вокам, і... о, жах!
Як тут жа вострая сякера
Ужо заносіцца на ўзмах.

Нібы падстрэленая птушка,
Бярозка ўпала б у цішы,
Калі б не ён, выгнаннік Пушкін,—
Заступнік скрыўджанай душы.

Прэч адкідае ён гардыню,
І просіць іменем сваім —
Не даць жывому дрэўцу згінуць.
І пакідае гаспадыня
Бярозку — памяццю аб ім.

Высокім станам, целам белым
Між дрэў здалёк была відна.
О, як жа буйна зелянела
Вясной, шчаслівая, яна!

Якую стоеную радасць
Дарыў ёй кожны сонца ўсход.

Дарыў датуль, пакуль са здрадай
Ён не прыйшоў, праклятаы год.
Той год, што свету зло стварыў,—
Той год забіты Пушкін быў.

І ледзь смяротны стрэл дуэлі
Азваўся воклічам тугі,
Адразу ў небе пасмялелі
Раней прыціхлыя багі.

Сагналі чорным статкам хмары...
Спярша, як з вёдраў, лівень ліў,
Затым агнём пярун ударыў
І ўшчэнт бярозку спапяліў.

Відаць, не толькі для паэтаў,
Як цень няспраўджаных пагроз
І як праклён старога свету,
Ён існаваў, фатальны лёс.

*1973*

* * *

Мне добра помніцца...
Яшчэ тады, з вайны
(А аддалі мы жыццяў ёй замнога),
Калі ў жалобнай варце ля труны
Стаяў над целам сябра баявога,—
Я не ўглядаўся ў вочы, каб яны
Не адбіралі вобраза жывога;
Каб той, каго праводзіў я з журбой,
Не мёртвым жыў у памяці маёй;
Каб чуўся мне і смех яго, і спеў,
Каб грудзі не душылі слёзы жалю...
Я не хацеў,
Я не хацеў,
Я не хацеў,
Каб вы, каго любіў я,
Паміралі.

Калі ж і я, што васілёк у жыце,
Памру — таксама ў вочы не глядзіце...

Вы пачуцця сяброўства не хавайце
І не маўчыце — я за вас маўчу,
А песні, спетыя са мною, заспявайце —
Застацца з вамі ў песнях тых хачу.

*1974*



Вяртаюцца пісьмы, вяртаюцца сны,—
Адно не вяртаюцца людзі з вайны.

Маўкліва з вышыняў глядзіць небасхіл:
О, колькі ж раскідана ў свеце магіл!

Узяць бы аднойчы ды разам сабраць
І могільнік гэтакі ўсім паказаць —

Глядзіце, чаго нарабіла вайна!
Чыя за ўсе гэтыя смерці віна?

Чыя? Адкажыце! Пакута крычыць.
Прыціхлі банкіры — сумленне маўчыць.

Ніхто з іх не хоча віноўных шукаць,
Магілы бяруцца хутчэй заараць.

І клопату нават душы не даюць,
Што гэтым заворваюць памяць сваю,

Хаваюць аднойчы пралітую кроў,
Каб потым пачаць праліваць яе зноў.

І стогне Зямля, бо не мае ўжо сіл
Трываць той крыві, незлічоных магіл.

І хочацца ёй у людзей запытаць:
«На чым жа вам сеяць і хаты стаўляць?

Няўжо...— працінае здагадкаю жах,—
На хрупкіх людскіх чарапах ці касцях?

Няўжо нават свет вам не дораг, не міл?
Паверце, мне цяжка ад вашых магіл.

Мне страшна...
Не знойдзеце ўправы страсцям —
Я стану суцэльнай магілаю вам».

*1973*

## ФРАНТАВЫ АЛЬБОМ

Прашу цябе, сэрца, балюча не ный —
Твой боль франтавы мне знаёмы...
Нібыта суровую памяць вайны,
Гартаю старонкі альбома.

Даўно ўжо састарыцца ўспела вайна,
Аселі акопы былыя,
Успела і нас пабяліць сівізна,
А вы ж... як тады, маладыя.

Нібыта знароку вам доля-ўдава
Маленькаю мерала жменяй —
Каму дзевятнаццаць, каму дваццаць два,
А некаму й гэтага меней.

А вам жа таксама хацелася жыць,
І вы ж па спакоі тужылі...
І крыўда балючай слязою бяжыць...
Былога туманяцца мілі.

За лесам бляднее і гасне зара,
Ужо не відаць небакраю...
А памяць, як полымя з дыму кастра,
Прарваўшыся, зноў ажывае.

З гадамі састарыцца ўспела вайна,
А селі акопы былыя,
Успела і нас пабяліць сівізна,
А вы ж, як тады... маладыя.

*1975*

## ПРАДЧУВАННІ

Пакуль гул смерці ў небе не кружыў,
І кліч атакі не будзіў ракітаў,
Яшчэ прамень надзеі недзе жыў:
«Мо абміне... Не буду я забіты...»

А загуло... І белы-белы снег
Біць пачалі на воспіны снарады,
І кожны з нас пад гулкі грукат бег,
І нехта, не дабегшы... раптам падаў.

За поўнач мы, не ўзводзячы вачэй,
Капалі моўчкі дол адзірванелы...
І хто сказаў, што нам было лягчэй,
Што нам, жывым, за мёртвых не балела?

Што белы свет пакутай не чарнеў,
Што нашы страты доля загаіла?
Чаму ж тады і сёння ў цяжкім сне
Капаем тыя ж брацкія магілы?..

І мо датуль нам прыйдзецца капаць,
Пакуль з вайной не будуць людзі квіты,
Пакуль сабе не здолеюць сказаць:
«Нас абміне... Не будзем мы забіты...»

*1975*

## АХ НАШЫ МАЦІ...

Таго б ніколі не зазнаці
Нідзе нікому на зямлі...
Ах, нашы маці, нашы маці,
Што вы ў вайну пераклы!..

Як сіратліва з кожнай хаты
Дымілі ўранні каміны!..
А там жа... падалі салдаты,
Салдаты... Вашыя сыны.

А вы з тых даляў незнаёмых
Штодня чакалі іх... жывых.
Але... прыходзілі дадому
Вам пахаронкі замест іх.

Гаротным выцертым шынелем
Шарэў тады вам ранні час —
І вы дачасна ўсе сівелі,
Дачасна гора гнула вас.

І хоць вы долю праклінал
І прачыналіся ад сноў,
Аднак... пакуль жылі — чакалі
Сваіх загінуўшых сыноў.

За ўменне ваша так чакаці —
Паклон вам нізкі да зямлі...
Ах, нашы маці, нашы маці,
Што вы за нас перажылі...

*1975*

## ГІМНАСЦЁРКА

Як ветэраны, мірна спяць пагоркі —
Ім сніцца бой... А нам цяпер той час
Напамінае толькі гімнасцёрка,
Што ў ліхалецце падружыла нас.

Няхай быў з ёю лёс занадта горкі —
Яна не стала меней дарагой...
Каханне наша скрозь у гімнасцёрках
Тады хадзіла па перадавой.

Пяшчотна раны бінтам бінтавала,
Гаіла боль, акрыльвала парыў...
І мы, салдаты, жыцці аддавалі
За вернасць тых,
хто ў гімнасцёрках быў.

Саміх сябе ў ратунку давяралі,
Бо толькі ім маглі і давяраць...
Калі ж на іх руках і паміралі,—
Куды лягчэй было нам паміраць.

Даўно няма ні роты, ні капцёркі,
Ды й самі мы ўжо спісаны ў запас...
І толькі ты,
старая гімнасцёрка,
У маладосць ізноў вяртаеш нас.

*1975*

## ВОБРАЗ МАЛЕНСТВА

Зіма!.. А ён у рванай світцы,
Жабрак-падлетак...
І ўсю ноч
Я трапятаў, нібы сініца,
Самкнуць не мог стамлёных воч.

Здалося, мёрз я на марозе,
Ў цяпле не адчуваў цяпла,
Каціліся ад крыўды слёзы,
Іх соль пякла, пякла, пякла...

І выпякала бесклапотнасць,
А быў такі ж лагодны свет...
Мо з той спагады да гаротных
І пачынаўся ён, паэт.

*1974*

## ПАКУТНЫЯ ПЫТАННІ

Зямля была і вечна ёю будзе,
Калі не ўчынім самі мы бяды...
Прашу: хоць раз задумайцеся, людзі,
На што мы трацім лепшыя гады?

Ці ведаем: чаго, скажыце, хочам?
Няўжо так цесна стала на Зямлі,
Што мы ў Сусвет — бяздонне чорнай ночы,
Ўсё шлём і шлём настырна караблі?

Чаго мы там, разумныя, шукаем,
Дакладных трасаў робячы разлік?
Няўжо таго прыдуманага раю,
Што самі тут адужаць не змаглі?

Няўжо таму Зямлю і не галубім,
Стараемся чым болей абабраць,
Агнём, дымамі, выбухамі губім,
Што не збіраемся тут век свой каратаць?

Падумайце, калі ж бы самі ёю,
Як маці, даражылі мы ў жыцці,—
Ці ж бы яна не аддала ўсё тое,
Што недзе там збіраемся знайсці?

*1974*

## ПЕРАД АБЕЛІСКАМ

Вы, хто тут пахаваны,
інакш не маглі...
Вы з сумленнем
ніколі ў жыцці
не хітрылі.
І хоць двойчы
ніхто не жыве
на зямлі,
Вы і смерці самой
не зманілі.

Не маглі —
замест вас нехта іншы б упаў,
Не маглі —
побач з вамі
і іншы той падаў...
Да жыцця я нялёгка
без вас прывыкаў,
Доўга ў сны
не прыходзіла радасць.

Зразумеў я —
адзінай уцехай жывым:
Ваш спакой берагчы,
на дабро не скупіцца,
Каб... калі не крывёй,
дык хоць потам сваім
Перад вамі
за вас адкупіцца.

Я душою ўсё той жа,
як вы,
франтавік,
З той жа вераю,
мужнасцю тою,
Я хавацца за спіны другіх
не прывык,
Не прывык і ўхіляцца
ад бою.

Там, дзе подласць,
бягу, як і вы,
са штыком,—
Міру з ёю
не церпіць натура,
А калі яе дзот
агрызнецца агнём,—
Закрываю сабой
амбразуру.

Не магу я спакойна
хадзіць па зямлі,
Калі праўдзе падрэзваюць крылле!
Вы ж таксама інакш бы
ў жыцці не змаглі,
У баі ж за яе
не хітрылі.

*1973*

## МАТЧЫНА ДОЛЯ

Сумненне цябе не даймала
У тую з апошніх хвілін...
Калі ты яго нараджала,
Хацела, каб толькі быў сын.

Ты самую лепшую долю
Яму рыхтавала душой,
Забыўшы, што ў свеце ніколі
Не можа быць вечны спакой.

То тут, а то там узнікаюць
Нязнікшыя войны ізноў...
І кожная з іх не мінае,
На смерць пасылае сыноў.

Не ўсім дастанецца ім радасць
Вярнуцца з далёкай вярсты...
«Хаця б не скасіла снарадам...» —
Збалелая молішся ты.

Сабой бы сама засланіла,
Каб там, у акопе была.
Не стала б траншэя магілай,
І куля б узбоч прагула.

Але ты ніколі, ніколі
Ратункам не трапіш туды.
Спрадвек твая матчына доля:
Ці шчасця чакаць, ці бяды.

Надзея табе не пасцеле
У горы абрусы свае...
Сыны, апрануўшы шынелі,
Ужо не твае, не твае...

На свеце так радасці мала...
Нядарам жа маці здаўна,
Калі ўжо сыноў нараджала,
Адзінае долі жадала,
Каб іх абмінула вайна.

*1973*

## У ТОЙ ДЗЕНЬ

І ценю балючага суму
Не кінуў той дзень на мяне...
Шчаслівы, я нават не думаў,
Ці ёсць ён, той сум, а ці не?

На сцежцы Адамавай Евай
Тады паказалася ты.
З падхмар'я вясёлыя спевы
Жаўрук рассыпа́ў на жыты.

І падалі гукі жывыя
На дол, дзе рамонкі цвілі;
У трэпеце рукі мне шыю
Пяшчотай цяпла абвілі.

І вогненнай хваляй бясконцай,
Як токам, мяне праняло...
Не помню, было тады сонца,
Ці, можа, яго не было.

Ці, можа, шчаслівыя самі,
Мы свет засланялі сабой...
Адно што гайдаўся над намі
Даспелых калоссяў прыбой.

У спёцы засмяглыя губы
Шукалі засмягласці губ...
А ў небе ўрачыстыя трубы
Трубілі у тысячы труб.

І нехта разнáсцежваў дзверы
Ў таемны і зманлівы край...
І я, ап'янелы, паверыў,
Што гэта і быў ён, той рай.

*1974*

## ЖАВАРАНАК

Яшчэ маўчалі ў сполаху таполі
І пахла дымам бою на зямлі,
А ты ўзляцеў, узвіўся па-над полем
І зазвінеў: «Цюр-лі, цюр-лі, цюр-лі...»

Сляпіла сонца стомленыя вочы —
З цябе ж ніхто не зводзіў свой пагляд...
А ты звінеў — і звонкі твой званочак
Нам заглушаў далёкі гул гармат.

І хоць над намі смерць яшчэ кружыла
І забірала некага з сабой,—
Ты прыдаваў і мужнасці і сілы,
І мы ішлі бясстрашна ў новы бой.

Калі ж салюты ўсюды адгрымелі
І цяжкі мір лёг стомай на парог,
Жывыя мы ў прадымленых шынелях
Вярнуліся з прапыленых дарог.

І ледзь на ўзгорак выбеглі таполі
І сёстрамі застылі на зямлі —
Высока ўзвіўся ў неба ты над полем
І зазвінеў: «Цюр-лі, цюр-лі, цюр-лі...»

І, доўга звонячы, ты на зямлю не падаў,
Каб не вяртаць былых шляхоў назад.
І чыстых слёз нястоеную радасць
Не мог стрымаць расчулены салдат.

*1974*

* * *

Без узаемнасці,
без шчырасці і веры,
Нібы без компаса марскому караблю:
Плыве,
не знаючы, дзе той далёкі бераг
І як знайсці жаданую зямлю.

Яе сама ты ўсё жыццё шукала,
Усё жыццё той мроіла зямлёй,
Ды, зведаўшы няшчырасці нямала,
Ўсумнілася і ў шчырасці маёй.

Табе дакорам каменя не кіну,
Ты без яго пакутамі жывеш...
Няхай лепш сам ён дойдзе напамінам
Пра пачуццё
нясмелы гэты верш.

Няхай не ўсё раскажа на паперы,
А ўсё ж цябе суцешыць у журбе...
Я адчуваў: ты мне хацела верыць...
І ўжо за гэта дзякую табе.

*1974*

## СЯБРАМ, ЯКІЯ НЕ ВЯРНУЛІСЯ

Хоць вас даўно няма, ўсё роўна
Трывожыце дагэтуль сны...
Нібыта ў нечым я віноўны,
Што не ўбярог вас ад вайны.

Хоць не аруць снарады гоні,
Ад бомб не валяцца гаі,
Але без добрых вас мне сёння,
Як без прыкры́цця у баі.

А без прыкрыцця — вельмі туга,
Хоць корчы сотню добрых мін,
Са шчылін лезуць жа хапугі,
Ўздымае голаў мешчанін.

А атакнì — гатовай фразай
З іх кожны трапна паласне,
Што быццам ты і лад абразіў,
І вас, хто згінуў на вайне.

Я не прышэлец, не з-за свету,
Гатоў сваё жыццё аддаць,
Каб анідзе не бачыць гэтых...
Каго мой вораг мог прыспаць.

У іх усё на словах ладна,
На справе ж... горасці адны.
...Так атрымалася няскладна...
Лепш вы вярнуліся б з вайны.

*1973*

## КАХАНАЙ

Калі трэба — пакутай
Лепш мяне пакарай,
Толькі здрады той лютай
Сэрцу зведаць не дай.

Сам гатовы паўнеба
Плоймай хмар зацямніць,
Каб душэўнай ганебы
Да сябе не пусціць.

А наважацца ногі
Несці помсту сваю —
На калдобы дарогу
Скрозь знарок ёй паб'ю.

Па лугах яшчэ росных,
Каб хутчэй — наўскасяк
На яе самых злосных
Нацкую я сабак.

Хай пагрозу адчуе,
Перапыніць свой пуць,
А схітрыць паспрабуе —
Хай ушчэнт разарвуць.

Будзь жа добрай, нястрогай,
Кроплю літасці май,
І не кару ў дарогу
Да мяне пасылай,

А каханне... Хай будзе
Ад яго мне відней,
І яно не заблудзіць —
Адшукае мяне.

*1973*

## СКАРГА НА МУЗУ

Няйнакш, як стары прадзіравіўся мех,
І, пэўна ж, прызнайся, не сёння,
Бо кепскімі вершамі, быццам на грэх,
Гадамі засейваеш гоні.
А тое, што сееш, дык тое і жнеш,
Бывае — пасеву не вернеш,
А толькі бярэма саломы нясеш
Заместа адборнага зерня.
І як табе толькі цярпення стае —
Зусім не шкадуеш сябе ты!
Падумай: хіба ж не з прычыны тае
Уцэнены сёння паэты?
А ўцэнка паэтаў — ці ж гэта не грэх?
Вось так і сядзім мы на мелі...
Хутчэй жа залатай дзіравы свой мех,
Каб з дзірак грахі не глядзелі.

*1973*

## ТАКІМ НАРАДЗІЎСЯ

У сіберны вецер сцюдзёнай зімой
Сустрэцца з каханай паехаў,
І снег, што хрысціў ледзяною крупой,
Здаваўся мне проста пацехай.

Затое з прастудай затым адляжаў...
І кпілі нязлосна суседзі:
— І хто цябе ў непагадзь гэту пагнаў,
Нібыта не мог пераседзець?

Заўсёды, як што не па мне,— на дыбы:
Настырным, відаць, нарадзіўся...
У лес незнаёмы папёрся ў грыбы
Адзін... І к паўдню... заблудзіўся.

Аж цэлая вёска шукае, не спіць:
Назаўтра знаходзяць пад вечар.
— Няўжо ты дзе з краю не мог пахадзіць,
А пёрся ў такую гушчэчу?

Як лёсу свайго не абходзіў я, лес,
Як быць асцярожным стараўся,
А зноў у гісторыю новую ўлез —
Ў замужнюю я закахаўся...

Хаджу яе ценем і сонцу не рад,
Схуднеў. Дакараюць суседзі:
— Няўжо ты не мог каго выбраць з дзяўчат?
І што ты ў замужняй угледзеў?

Дзіўлюся, як свет да мяне вельмі строг,
Бо колькі у ім ні жыву я,
За што ні бяруся: «Няўжо ты не мог?»
Заўсёды я толькі і чую.

Нямала прайшоў я нягладкіх дарог,
Калдобіну кожную помню...
Калі ж іх пазбегнуць я хітранька б мог,
Ці лепш бы, не знаю, было мне.

*1974*

## БОЯЗЬ ПАХВАЛЫ

У закутак заб'юся
Перад ёй, як малы,—
Горш гадзюкі баюся
Я пустой пахвалы.

Кожным разам штосілы:
«Адкасніся!» — крычу.
Каб мяне закружыла,—
Не хачу, не хачу...

Толькі варта паддацца —
Пойдзе ўсё наўскасяк,
Хіба ж буду старацца,
Калі добра і так...

Хіба ж буду капканы
Я абходзіць тады?..
З ёй, што з бабаю п'янай,—
Крок, не больш, да бяды.

Прываротлівым зеллем
Можа ўраз апаіць,
І спакуслівым хмелем
Не к дабру захмяліць.

А спусцеюць засекі —
Стане тут жа спіной,
І тады ўжо навекі
Загавееш душой,

І зняважаны мусіш
Дні агорваць свае...
Вось чаму я баюся,
Горш гадзюкі, яе.

*1974*

## СУСТРЭЧА З БЯРОЗКАЙ ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Зялёная, шумліва-трапяткая,
Між поля жытняга на ўзгорку за сялом
Мяне ты гэтак радасна страчаеш,
Нібы ўначы нічога не было:

Ні навальніц, ні ліўняў і ні гулу
Грамоў, што ўсё хацелі заглушыць,
Ні злых вятроў, што сілай долу гнулі,
Каб стан зламаць і голле пакрышыць.

Ты ж не здавалася ў няроўным паядынку...
І хоць разбой хавала ночы мгла,
Маўкліва білася, ірвалася з абдымкаў,
Бо... уцячы нікуды не магла.

І ты адолела... Шумліва-трапяткая
Сталіш усім крыўдзіцелям на зло,
І так мяне спакойна сустракаеш,
Нібы з табой нічога не было.

Нібы й мяне стыхіі не ламалі...
І ўсё ж... Мо лепш пра гэта памаўчым?
Мы ад сябе ніколі не ўцякалі,
Бо ад сябе — нікуды не ўцячы.

*1974*



Паддайся толькі сыценькай уласнасці,
Прывыкні да спакою, да цяпла,—
І ўжо табе няма той яснай яснасці,
Той непадкупнай мужнасці і страснасці,
Што некалі на подзвігі вяла.

Ужо табе занадта цяжка дышацца,
Хоць ты жывы, але як нежывы,
Карціць на ўсё махнуць рукой, суцішыцца,
Забыць вышыні, што для смелых высяцца,
І стаць цішэй вады, ніжэй травы.

Ды толькі сцежкі тыя надта слізкія,
На іх і высь — не высь, а высі зман.
А ў душы нізкія, нібыта ў месцы нізкія,
Ледзь блісне дзень апошняй светлай рыскаю,
Ён запаўзае, ўласнасці туман.

*1974*

* * *

Няўмольны час,
Скажы:
    чаму спрадвеку
Ты на зямлі не лепшае тварыў —
Знікалі пушчы, селішчы і рэкі,
Знікалі царствы,
Толькі — не цары.

А тыя ўпынку войнам не давалі,
Адну закончыўшы, другую пачыналі.

Калі ж нявыкрутка,
І ледзьве трон не падаў,—
Спраўлялі тут жа лацьбавання пір,
Жанілі тут жа
Родных мілых чадаў
І, як пасаг,
Давалі ў роднасць мір.

Успомніў я пра хітрасць супастатаў,
Бо вельмі ж хочацца паставіць крыж вайне.
Скажы, о свет!
Ну з кім цябе сасватаць,
Каб на стагоддзі ты паспакайнеў?

*1974*

## РОДНЫ БЕРАГ

Калі далёка ў акіяне
Ты ўжо не дзень, не два плывеш,
Калі нідзе ніякіх меж,—
Усё ж ты знаеш, дзе прыстанеш,
Сваім чый бераг назавеш.

А я ж сваім няродны бераг
Не назаву: перад ваччу —
Зямля, якую доўга мераў,
Зямля, якой сябе лячу.

Хоць знаю: ўсюды ёсць святое,
А толькі тут і толькі тут
Я адчуваю, чый я, хто я,
І што мне дзе загадкай тоіць
Зялёны луг,
жытнёвы кут.

Маёй душы тут не зняверыць
Ні бору шум, ні рэчак звон
І ні ў рамонках белы бераг,
Які я столькі раз прамераў,
Дзе буду сніць свой вечны сон.

*1974*

* * *

Нібы сімфонія жывая
Ці таямнічасць нечых дум,
Шуміць дуброва векавая...
І не канчаецца той шум.

У ім то радасць, то пагроза,
То стогн, то водгалас журбы...
Пра маладосць пяюць бярозы,
Пра вечнасць — хмурыя дубы.

Між іх гарэзлівай дзяўчынай,
Што к хлопцу збегла ўпершыню,
Палае чырванню рабіна
Нябачным водсвітам агню.

Уверх узняць не можа вочы —
Не выдаць сораму б свайго...
Адна асіна ўсё лапоча,
Нібы палохае каго.

Як ні стараецца самохаць,
Але зрабіць бяссільна зло:
Таго нічым не запалохаць,
Што ў юных сэрцах ажыло,

І што ў жыцці не памірае,
Не нарадзіўшы светлых дум...
Шуміць дуброва векавая
І, быццам споведзь, гэты шум.

У ім то радасць, то пагроза,
То стогн, то водгалас журбы.
Пра маладосць пяюць бярозы,
Пра вечнасць — хмурыя дубы.

*1974*

## У СПЁКУ

Заснуў і колас жытні ў полі,
Напяўшы павуцінкі ніць,
І бор прыціх —
таксама спіць,
На грудзі склаўшы рукі-голле.

Маўклівай спёкі млявы сон
Зялёныя прыжмурыў вочы,
У гушчыні зялёных крон
І лісцік нават
не лапоча,
Каб царства сну не разбудзіць,
Нібыта мне напомніць хоча:
Ці варта сэрца верадзіць,
Калі сама прырода спіць,
Калі грымотаў не чуваць...
А мо паслухацца — і спаць?

Заснуў жа колас жытні ў полі,
Заснуў жа бор...
Няўжо ж і я
Не маю праў?
Няўжо мая
У спёку гэтакая доля?

*1974*

## ПАМЯЦЬ

У небыццё адходзяць даты...
А тыя... Тыя — на вякі:
Як надзявалі мы, салдаты,
Не з лаўраў звітыя вянкі,

А каскі — мужнасці адзнаку,
І як затым у першы раз
Ішлі, прыгнуўшыся, ў атаку,
Як долу клалі кулі нас,

І як таварышаў хавалі,
І як маўчалі той парой,
Бо заўтра зноўку бой...
І знали,
Што не пайсці нам нельга ў бой.

Што покуль ёсць на свеце кодла
Фашысцкай нечысці, датуль
Сама сабой не знікне подласць —
І мусім падаць мы ад куль.

І мусім гэтак жа цярпліва
Дэвіз свой несці праз вякі:
Дзе бой ідзе за справядлівасць —
Заўсёды там франтавікі.

І хоць не носім мы медалі,
Бо беражом на святы іх —
З сябе ж ніколі не складалі
Мы абавязкаў франтавых.

*1974*

## ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ

Яшчэ ім доля анігадкі,
Гульнёй занятыя яны:
З пяску старанна лепяць хаткі,
Старанна ставяць каміны.

Валы высока насыпаюць,
Каб не ўварваўся хто «чужы»,
Не пазаймаў іх рубяжы...
Яны ў сур'ёзнае гуляюць...

І як жа злосна бровы хмураць,
Калі «вайна» на валаску,
Калі хто хоча ўсё разбурыць,
Дарма, што злеплена з пяску.

І як бязлітасна караюць
Таго, нашкодзіць хто хіцёр...
Жыццё і тут. Таму й гуляюць,
Як у сапраўднае жыццё.

Дармо што дзеці. Ім не проста
Даецца вопыт на вяку,
Не так, як тым дзядзькам дарослым,
Што ўсё будуюць на пяску,

Што словы кідаюць на вецер
І чмурапь нас не ўпершыню...
Пара сказаць ім: «Мы не дзеці!
Канчайце гэтую гульню!»

*1974*

## СУМЛЕННЕ

Як сябе,
Я цябе шанаваў, гадаваў,
Толькі нелюдзь цябе
Сёння ў гразь утаптаў.

Горш ад раны
Балючая крыўда пячэ.
Ноч... А я ўсё
Не зводжу ў бяссонні вачэй.

Ноч... А ў хату маю
Не прыходзіць спакой.
Ноч... Мо лепей махнуць
На ўсё гэта рукой?

Хай, маўляў, будзе так...
Я й пры тым пражыву.
Прымірэнне не цешыць
Ніяк галаву.

Можа, прыйдзецца зведаць
Не тое яшчэ...
Будзе болем пячы.
Што ж, няхай папячэ.

Не на тое
Сумленне сваё гадаваў,
Каб яго хто нагамі
У гразь утаптаў,

І каб потым з гразёю
Змяшаў і мяне.
НЕ!!!

*1974*

## ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Яму хоць трохі прыпыніцца б,
Наслухацца журчання рэк,
Спакою траў...
Дык не — імчыцца,
Імчыцца ён, маторны век.

Натужна стогнуць магістралі,
Ад перагрузак — стрэс і крыз...
«Хто першы!» — як на аўтаралях,
«Каму, каму галоўны прыз?»

Але якой заплоціш платай
За доўгі над прыродай здзек,—
Задумайся хоць раз, дваццаты,
У гонках ашалелы, век.

Ці не задарага ўсё гэта?
Ці не залішне сёння рад?
І ці ў ладах з разумным светам?
Час не вяртаецца назад.

Калі не прагнеш прыгавору
Сваёй, не той ужо, Зямлі,
Хоць на галоўных семафорах
Чырвоны колер запалі.

*1975*

* * *

Ёсць думка —
                    ўсё тады магу,
І поўны сілы, веры,
Я гну й нягнуткае ў дугу,
Захоўваючы меру.

Адно,
          каб толькі не змяніць,
Не пакрывіць душою...
І песня чыстая звініць
Званочкам пад дугою.

І той званочак пад дугой
Звініць і не змаўкае...
Спяецца песня —
                              ўслед за ёй
Гучыць ужо другая.

Сябе для трэцяй у дугу
Згінаць ужо не трэба...
Цяпер усё, усё магу!
Што значыць стаць на глебу.

*1974*

* * *

Часамі даравацЬ гатовы
Тым, хто гадамі маладзён,
Знаёмасць рыфмы,
Блекласць слова,
Калі заўважу верны тон.

І хоць... спярша я і дарую,
Затым да крыўднага шкадую.

Чаму: калі ўжо ёсць аснова
І ўзяты верны ў творы тон,—
Не выкрасаць зіхоткасць слова,
Не разгайдаць вялікі звон?

*1974*



Шчэ птушаня, а ўжо сіло
Яму прыдумваюць не дзеці...
Жыццё і смерць, дабро і зло —
Дзве процілегласці на свеце.

Іх тайнай змовы не відно,
Не пад адной яны дугою,
Але — узнікні што адно —
Заўсёды тут як тут другое.

І першаму сваё сіло,
Як тому птушаняці,
ставіць...
Жыццё і смерць,
дабро і зло,—
Не ўсім,
не ўсім бы даў я права,

А толькі тым, хто ў празе жыць
Нічым не можа людзям збры́дзець,
Хто ву́чыць добры свет любіць,
А свет нядобры — ненавідзець.

*1974*

* * *

Камень — спрадвеку без голасу,
Не камяней, дарагая...
Ён жа і шчасця не мае,
Бо не ўзгадуе коласу.
Рунь, каб рунець, і тая
Ворыва заўжды чакае,
Прагне сяўца вясёлага.

Хочаш зазнаць пяшчоту —
Не паскупіся на ласку ты,
Бо не ў мароз, не ў слоту
Луг зацвітае краскамі.
Хто затужыў адзінотай,
Шчасце не стрэне ў маі,—
Не праміргай, дарагая.

Ведай: не заўтра, а сёння
Нашае заўтра грэецца.

Сёння... А нехта ж гоніць
Холад і хмары з прадоння;
Густа дажджы з іх сеюцца,
Вільгаццю дол набракае...
Хіба ж дажджу я чакаю?

Толькі скажы: «Не пярэчу...»
Хоць напаўголас — пачую,
А як пачую — на стрэчу
Хвіляю той палячу я.
Нават, калі й непагода,
Сонцам свяціць будзе згода.

*1974*

## РОДНАМУ КРАЮ

Памылюся — сурова судзі,
Не кідай аднаго на панурасць.
Дуб і той, калі ў полі адзін,
Не заўсёды адольвае буру.

А вяртацца адтуль, з забыцця,
Могуць толькі ў прыдуманых казках.
Я ж не ўсё яшчэ ўзяў ад жыцця
І ўсяе не аддаў яшчэ ласкі.

Ты — адзінае шчасце, мой край,
Новай песні няспетыя словы...
Памылюся — судзі і карай.
Не пазбаў толькі сына любові.

*1973*

* * *

У свеце, дзе тлумна, дзе мулка, дзе густа,
Талент — вялізазны каравай:
Якія захочаш адвальвае лусты
І прапануе: «Бяры, спажывай!»

Колькі б ні бралі — не ўсё спажывецца,
Нешта ж наступным яшчэ застанецца.

Талент не можа сябе не раздарваць,
Не вызначае дабру рубяжы.
Толькі пасрэднасць — сварлівая скнара —
Прагна над кожнаю крошкай дрыжыць.

Нават яе не аддасць задарма,
Бо за душой больш нічога няма...

Як у някормнага — рэбры ды косці
Ды і сама ўжо натуры свіной:
Плоціць, як правіла, таленту злосцю,
Спрытнаю хітрасцю, здраднай маной.

Талент жа крыўдзіцца нават не хоча,
Як Караткевіч Уладак, рагоча,
Бо не баіцца нікчэмства, хлусні,
Ведае: з часам усё перабродзіць.
А на пяску, як ні сей, а не ўродзіць
Добрага хлеба ні-ні.

Поле пасрэднасці дбайна араць —
Тая ж дарэмная трата дабра...

*1974*

* * *

Лягчэй маёй — няма задачы...
Зайдзі, і ты сама ж убачыш,
Як млеюць ружы на стале...
Адкрыцца мог бы я,
Але...
Адкрыты насцеж са двара
Вароты не ў гаспадара.

Не быў і быць ім не хачу,
Пастукай — ціхенька ўпушчу
Праз дзверы хоць, хоць праз вакно —
У сэрцы ж ты маім даўно.

З апаскай сумна не глядзі:
Не пастка — ружы там, зайдзі.
Зайдзі, нясмелая мая,
З табою пасмялею я.

*1974*

## ТВОЙ ЦЕНЬ

Пільную я не першы дзень
Цябе ля прахадной,
Я — неадступны добры цень,
Нябачаны табой.

Гатовы суткамі стаяць,
Быць з часам не ў ладу.
А выйдзеш ты — і воддаль я
Ўслед за табой іду.

Чакаю, покуль у вакне
Пакажашся сама,
Стаю, як быццам іншай мне
І радасці няма.

Лаўлю паглядам твой пагляд
І, трапіўшы ў сіло,
Не рву пятлі — ёй сам я рад.
Што без яе было б?

Развеяў чым бы я нуду?
А так... І ты са мной,
І заўтра зноўку я пайду
Туды, да прахадной.

*1974*

## ТРЫВОЖНАЕ ВЕЧА

Звоняць трывожна ў Хатыні званы,
Быццам склікаюць на веча
Памяць вайны, раны вайны,
Боль чалавечы.

Быццам склікаюць і іх, нежывых,
Блізкіх, някроўных і кроўных,—
Нельга быць поўнаму веча без іх,
Веча ж павінна быць поўным.

Крыўда не ціхне... Не прыйдуць яны...
Кожная плача травінка.
Звонам тужлівым у небе званы
Звоняць памінкі.

Будзяць трывогу апошніх хвілін,
Каменем помнікаў стынуць.
Грукае ў грудзі, як звон-напамін,
Попел Хатыні.

Стогне трывога і рэхам ідзе —
Мілю мінае за міляй...
Хочацца полю, каб болей нідзе
Гэтак званы не званілі.

Звоняць, не ціхнуць Хатыні званы,
Клічуць нястомна на веча
Памяць вайны, раны вайны,
Боль чалавечы!..

*1974*

## КРЭДА

Не бараніў і бараніць
Не буду прагных да выгоды.
Мяне інакш вучыла жыць
Сама вялікая прырода:

Не тумакамі, не бядой...
Я наглядаў, як рупна маці
Спярша сама віе гняздо,
Затым дае жыццё дзіцяці.

І вучыць жыць не для забаў,
Тугу вясёлым спевам гоіць.
Я гэта ў прыклад змалку браў,
Я адкідаў усё благое.

Згрызот не сеяў навакол,
Не шкадаваў цяпла азяблым,
Як тая яблыня, на дол
Скідаў... і толькі спелы яблык.

Не ўзводзіў між сяброў платы,
Бо ведаў: справу множаць справай,
Хто сам не творыць дабраты,—
На дабрату не мае права.

Таму не мог я бараніць
Настырных, прагных да выгоды,
Бо так мяне вучыла жыць
Сама разумная прырода.

*1974*



Калі мой пачынаўся няпройдзены шлях,
Думаў, стане на ўсё маладосці і сілы —
Гэтак лёгка па цяжкіх дарогах зямля,
Што пушынку, мяне насіла.

А цяпер, калі, стомлены, ў засені дрэў
Адпачыць ад хады я саджуся на камень,—
Уздыхаю... І сам я цяпер зразумеў:
Ох, якая яна ўсё ж цяжкая!..

І якая няўмольная ў часе яна...
Нездарма кажуць кожнаму людзі,
Калі ўніз адплывае навекі труна:
«Хай жа пухам зямля яму будзе...»

*1974*

## КРЫЛЫ

Мо ніколі каханне таму не спазняецца,
Што спрадвеку да мілых на крылах спяшаецца.
І спрадвеку спяшацца да мілых ахвоціцца...
А тралейбус знарок запаволена коціцца.
Я хутчэй бы, здаецца, дамчаўся двуколкаю,
Мо таму і стаю, як на вострых іголках, я.
Людзі, людзі! Скажыце: ці ж сэрца вы маеце,
Калі гэтак спакойна ў акно пазіраеце,
Калі гэтак спакойна там нешта тлумачыце,
На мяне гледзіцё — і нічога не бачыце.
Як аслеплі. А недзе ж... хвалюецца мілая...
Пашкадуйце яе! Дайце, дайце ж вы крылы мне!
Дайце крылы, каб потым ніколі не каяцца!
Крылы, крылы... Бо толькі на крылах спяшаюцца.

*1974*

* * *

І ты, і я... І на паўмілю,
Што ў дзень стварэння,— ні душы...
Бярозкі, ўбачыўшы, застылі —
Баяцца голлем варушыць.
Ступіць баяцца нават кроку
Ў наш чысты замак з крышталю,
Каб не падслухаць ненарокам
Святое першае: «Люблю!..»
Каб шэпат, стаўшы гучным рэхам,
Не нарабіў бы нам трывог,
І нехта злосны брудным смехам
З яго смяяцца гідка мог.
Хай заўтра яснае світанне
Абудзіць чысты новы дзень,
І на «люблю» — лісток прызнання
Не ляжа ценем нават цень.

*1974*

* * *

Калі вам цяжка, горасна — прымецце:
Чаго не можа здумаць розум ваш —
І справядлівасці нідзе няма на свеце,
І ўжо дабро, ні больш ні менш,— міраж.

І лепш бы ўжо пярун хутчэй ударыў,
Ці ўсё ільдом паскоўвала зіма.
Але ж... калі хаваюць сонца хмары,
Мы ж не гаворым, што яго няма.

*1973*

* * *

Кветкі, кветкі,
Скажыце: ці доўга так будзе,
Што вясёлыя вы
Кожны раз па вясне
Нам раздорыце радасць
На шчасце, як людзям,
Не пытаючы нас:
Мы благія ці не?

А чаму б не спытацца,
Не глянуць у вочы —
Погляд выдасць заўсёды
Таго, хто ілжыў,
Хто на ўцеху сабе
І ірве вас, і топча,
Вось яму і плаціце
Тым, што ён заслужыў.

Не цягніцеся з ласкай
Да хцівых і дзікіх,

Да хапуг, на дарэмшчыну прагных,—
Пара
Разабрацца ва ўсім —
І дарыць па разліку:
Грам свае прыгажосці
За гарнец дабра.

*1974*



Не ўбачыў — сказаў бы прыснілася.
Але... не прыснілася ты —
Стаяла між клёнаў, дзівілася,
Як лёгка зляталі лісты,

Як падалі долу ў знямеласці.
Адкуль жа я ведаць бы мог,
Якую іголку нясмеласці
Хавае душы тваёй стог.

Ты доўга пагляду не зводзіла,
Надзейна звівала сіло...
Чым дальш ад цябе адыходзіў я,
Тым больш нецярпенне пякло.

Хвілінаю нават здавалася,
Што недзе і след твой прастыў.
І раптам... я сам азіраюся.
І бачу — ўсміхаешся ты.

І сэрцу так лёгка зрабілася —
Нішто ўжо нутро не пячэ.
«Выходзіць, на клёны дзівілася
Знарок для адводу вачэй.

Давай жа хоць позна пакаемся,
Віну не памножым віной...
Не кожны мы раз азіраемся,
А шчасце ж бывае адно».

*1974*

## НЕ СПАДЗЯВАЙСЯ НА ПРАРОКАЎ

Ты ўжо не раз караў папрокам
Сябе, разумны чалавек...
Не спадзявайся на прарокаў —
Іх не ўзгадуе новы век.

Усё, што працаю ты ў тлуме
Збіраеш стомаю гады,
Бяздумны век вайною глуміць,
Ператварае ў пыл і дым.

Ваюе! З кім? З бядою, смерцю?
О, не!.. Ён белы сам, як смерць,
І ў злосці ўсё гатовы сцерці,
Што сам не можа зразумець,

Што не ўкладаецца ў сістэмы
Яго дзяржаў, яго багоў,—
Бо што яму, нарэшце, ўсе мы —
Трава някошаных лугоў.

Трава, што не ў пракосы ляжа,
І не ў высокія стагі,
А ападзе счарнелай сажай,
Як дань няўцешнае тугі.

Тугі па сонцы і аблоках,
Што над зямлёй былі спрадвек...
Не спадзявайся ж на прарокаў —
Будзь сам прарокам, чалавек!

*1974*

* * *

Падумай: колькі тае шкоды
Нам робіш ты, вялікая Прырода.

Нашто такія завяла парадкі:
Радзіўся хто — ўсё пачынай спачатку?

Хадзіць вучыся, потым — гаварыць,
Пісаць і думаць, думаць і тварыць.

Калі ж памёр,— прапаў набытак твой:
У небыццё ты ўсё забраў з сабой.

І новаму малому немаўлятку
Зноў тая ж доля — пачынай спачатку.

Ці не таму і роздуму трывожна,
Што ўсё спачатку...
Колькі ж гэтак можна?..

*1974*

* * *

Увысь, увысь імкнецца ўсё жывое:
        Расліны, травы...
        Сам сябе лаўлю:
Няўжо туды, дзе ў вечным неспакоі
        Было яно,
        Адкуль, як нечужое,
Упала добрым зернем на Зямлю?

Упала, прарасло, і... нават, прыжылося,
Хоць па натуры тым жа засталося.

І хоць прайшлі мільёнамі гады,
Але імкнешся ты душой туды.

Туды, туды!
        Бо толькі стуль, здаля,
Такой прыгожай бачыцца Зямля.

*1974*

## РАЗВІТАННЕ СТАРОГА ГОДА

Хоць мне толькі год, а ўжо кажуць: «Стары,
Набыўся, нацешыўся — годзе!»
І рады б адпрэчыць мяне да пары.
Ну вось паспрабуй іх, людзей, разбяры,
Нібыта я ім не ўлагодзіў.

А я ж так стараўся, ва ўсім дагаджаў,
Дарыў то вясну ім, то лета, то восень,
І сеяў, і жаў, і сады насаджаў,
І столькі пачаў і закончыў я спраў,
Што — дзіву даюся —
як столькі змаглося.

Цяпер адстараўся, адбыў і здаю
Набыткі яму, Маладому,
І разам з набыткамі я аддаю
Прыдбаную добрую славу сваю...
І стала самотна самому.

І нават падумаў, паверыце — не,
Пражыў жа з людзьмі я без сваркі:
Няўжо ж так ніхто з іх і не ўспамяне?
Аж бачу — успомнілі! І за мяне
П'юць весела поўныя чаркі.

За поспехі ставяць размашыста «пяць»,
І просяць мяне, як Старога,
Яму, Маладому, ключы перадаць,
Самому ж навекі з сабою забраць
Зямныя людскія трывогі.

Я людзям адмовіць ні ў чым не магу,
Калі што не так — не вініце,
Бывайце! Знікаю ў начную смугу.
З сабой забіраю старую тугу.
Жывіце, працуйце, тварыце!

*1974*

## ІЛГУН

Хлусня не ўсіх жыўцом глыжэ;
Сяму-таму і смешна:
— Ну што ж, няхай крыху салжэ
І нас пацешыць, грэшных.

Хай гне, нібы мядзведзь, дугу,
Перабірае меру,
На тое ж ён і ёсць ілгун,
Каб мы маглі не верыць.

Нарэшце сам, ды так зблажэў,
Як не блажэў ён зроду,
А людзям смех:
— Ото ж ілжэ!
Яму б цягаць калоды.

Праз месяц — громам навіна...
— Памёр? Вы што?.. Крый божа...
Ці ж мы не знаем ілгуна —
Ён не такое можа...

Памёр... Яму абы сылгаць,
Нас, дурняў, акалпачыць...
І дол ніхто не йдзе капаць,
Ніхто па ім не плача.

Пара сасновую труну
Сяк-так бы збіць, хоць коса...
Ды як паверыць ілгуну —
Застацца ж можна з носам.

Ляжыць адзін...
І смерць з касой
Прысела не ў пацеху,
Маўчыць зацята — ёй адной
На свеце не да смеху.

Глыжэ касцявую туга:
Ў жыцці не на паперы —
Калі ўвесь час, як ён, ілгаць,
І ў праўду ж не павераць.

*1973*

## ЗУСІМ НЕ ЭЛЕГІЧНАЕ

Заснуць не мог ніяк
Да рання на палацях,—
Хоць марыў мой бядняк
Зусім не пра багацце.

Нашто для бедняка
Той журавель у небе —
Яму б сакавіка
Напіцца ўволю з хлебам.

Тады... куды ўжо лепш?
Ды вось бяда якая:
Увосень мае хлеб —
Сакавіка не мае.

Не ладзіцца разлік —
Чакаць вясну ўсё ж трэба...
Цяпер — ёсць сакавік,
Няма затое хлеба.

А хлеб — кляні ці не —
Прыносіць толькі восень.
...Вось гэтак і ў мяне
Не ўсё ў жыцці збылося.

Як ні гарэў душой
З паэзіяй пабрацца,
А толькі цалкам ёй
І дня не мог аддацца.

Калі вакол гуло,
Зямля ад мін стагнала,
Ці ж да яе было?
І без яе хапала...

А легла цішыня,
Як міру зерне ў глебу,—
Не прасядзеў і дня
Без клопатаў аб хлебе,

Аб тым, каб зноўку ціш
Чужынец не парушыў...
А там ужо, глядзіш,
І сівізной цярушыць.

На спад кіруе час,
Не вернецца былое.

...Няскладна выйшла ў нас,
Паэзія, з табою.

Лаўровага вянка
Цяпер ужо не трэба...
Адно б сакавіка
Напіцца ўволю з хлебам.

*1973*



Звон рыфмы бяздумнай, што звон авадня,
Памчышся за ёй у пагоню —
Дарэмна заморыш у скачцы каня,
А звону таго не дагоніш.

Ён рэхам няўдачы зацiхне ў душы,
I доўга ты будзеш журыцца.
...Не выспела думка — цярпі, не пішы,
Дай час ёй сцяблінкай прабіцца.

Дай моцы набрацца і волю ёй дай,
Дыхання не здаўлівай формай.
I толькі тады ты Пегаса кілзай,
I звонкія рыфмы прышпорвай.

*1974*

* * *

Працінаюся токам сардэчным,
Ледзь яе запачуецца крок,
І нібыта ў бок сонца сланечнік,
Галаву павяртаю ў той бок.

А яна, прыгажосць незямная,
Абыходзіць мяне на віду,
Адыходзіць... Вачэй не спускаю,
Пад канвоем пагляду вяду.

Ды канвой мой над ёю не вечны —
Белай хмаркай за ўзгорак зайшла...
І завяў безнадзейна сланечнік,
І паменшала ў свеце цяпла...

*1973*

## ПАЭМА ВЯРТАННЯЎ

*

Гадоў былых
даўно густая замяць
Завеяла б
той вогненны рубеж,
Калі б не ты,
мой летапісец,— памяць:
Мінулае
забыць мне не даеш.
Ляцяць высока
ў горкі вырай гусі,
Зямля сівее
ў волкіх туманáх.
Я думаў: больш
ніколі не вярнуся
Да дзён тваіх,
далёкіх дзён,
в а й н а.
Я думаў:
там,
у даўнім часе, недзе

5*

Ўсё плывуном
бялёсым заплыло,
І больш нішто мне
сэрца не ўзвярэдзіць,
Не прыйдзе ў памяць
знішчанае зло.
Бо колькі ж можна,
каб напаміналаǃ —
Заплочана ж
вялікая цана.
...У сорак пятым
нават генералам
Гісторыяй
здавалася вайна.
Ужо сёй-той
спяшаўся і ўспаміны
Ў літзапісе
пакінуць на вякі...
А тут, каля Бягомеля,
на мінах
Яшчэ ўзрываліся
гарэзы-хлапчукі.
Яшчэ стаялі
гонкія дзялянкі
Бароў, што лягуць
зрубамі для хат.
І скрозь дымілі
ўдовіны зямлянкі,

З вайны
не дачакаўшыся салдат.
Вясна не чула
рыкання худобы,
І дзірваноў
скарэлая далонь
Някранутай ляжала —
чым уробіш:
На пяць брыгад —
адзін трафейны конь.
Легендай некаму
мо гэта здасца сёння,
Але ж таго
цяпер не перайграць:
Жанкі ўпрагаліся ў плугі
замест коней,
Бо...
перш, чым сеяць,
трэба ж узараць.
Калі каго
здалёку заўважалі,
Змарнелыя
з галоднае зімы
Знарок яны
па-конску
гучна ржалі —
Маўляў, іржом,
пакольні коні мы.

Іронія
бязлітаснага лёсу!
А лёс,
як воз,
нагружаны бядой,
Засеўшы быў
у багне
па атосы,
І мог бы ўвесь
нырнуць бы з галавой,
Калі б не прага чалавека —
выжыць!
І не яе
нястомнай сілы плынь.
...Шаша
пагоркі
пацеркамі ніжа...
А вось
і паваротка на Хатынь.
Як тая косць,
счарнелая на зломе,
Дарога —
у пакуту,
у тугу...
І хоць мой шлях
намечаны ў Бягомель,
Хатыні абмінуць я
не магу.

Зацята тут
яе людзей маўчанне...
І нават барвы
ціхае зары,
Як зарава пажару,
на світанні,
Нібыта зноў яна,
Хатынь, гарыць...
Ізноў крычаць
у чорным дыме людзі...
Хутчэй туды —
паспець адвесці смерць!..
Хатынь, Хатынь!
О, колькі ж яшчэ будзеш
Ты ў нашай горкай
памяці гарэць?!
За што?
За грэх які —
напасць такая?
Здалёку чуецца
людское болі звон...
А мы ў машыне,
быццам уцякаем,
А боль услед
за намі —
наўздагон.
Ніколі ён, пакутны,
не адстане,

Хоць напярэймы
выкапай равы,
Ён тут у кожнай
траўцы на паляне,
У кожным дрэўцы выжыўшым
жывы.
І ўжо людской
паспеў зрабіцца звычкай,
Як душ папаленых
неадбалелы крык...
Вунь і цяпер
расказвае масквічкам
Бабулька
пра блакаду, пра Палік.
Пра спаленыя вёскі
і пра жахі
Цяжкіх прарываў
з вогненных блакад,
Калі ў вадзе
ты плаваеш па пахі
І ёй, вадзе,
як паратунку, рад;
Калі навокал
кулямі прашыты
Чарот, паветра,
купіны, кусты.
Адно чакаюць
карнікі-бандыты,

Калі здасіся
ці загінеш ты.
Боль і цяпер
пячэ душу жывую...
І, каб хоць нечым
бабцы дагадзіць,
Масквічкі
карамелькамі частуюць,
Як быццам можна
боль падсаладзіць.
Іх спачуванне
я не асуджаю,—
Бо карамелькі ж тыя
ад душы,
Хоць ад таго
не палягчэе, знаю,
Ні людзям,
ні пагоркам,
ні шашы.
Ім не такое
давялося зведаць,—
Таму і нам
цярпенне трэба мець:
Не абмінаючы
ні болі
і ні беды,
Усё спакойна ўзважыць,
зразумець.

Няспелае —
дачасна не выспельваць,
Не абрываць
да горкай праўды ніць,
І чорнае
знароку не абельваць,
І белае
з намерам не чарніць.

*

Яшчэ шаша
змарыць не ўспела стомай,
Як выбег ён,
драўляны,
ў сотні хат,
З садамі, агародамі,
Бягомель —
Маўляў, гасцей
страчаць я сёння рад.
Навек гадоў ваенных
скінуў беды,
На месцы іх
я смела стаўлю нуль...
Цяпер сюды,
сюды па шчасце едуць,
А ў тыя годы —
толькі ўсё адсюль.

У белы свет —
ён, балазе, вялікі:
Сібір, Кубань,
Далёкі Ўсход,
Алтай...
І кожнаму тады
крычала крыкам
Бягомельшчына ўслед:
«Не пакідай!
Не пакідай —
няма на свеце раю!
Ты ж сеяў тут
і ўчора і спрадвек.
Сваіх бярлог
і звер не пакідае,
А ты ж — не звер,
ты ж свой,
ты чалавек».
Ды «чалавекі» ж —
гэтаксама людзі,
Відаць, і ім
таксама дапякло...
Таму анафеме
іх аддаваць не будзем,
Лепш разбяромся,
як і што было.
Той песні не пакінем
недапетай,

Нічога не ачэрнім
　　згарача.
Калі ж тады
　　зіму
　　мяняла лета,
Не ведала,
　　з чаго сябе пачаць?
Што саграваць:
　　зямлю,
　　людскія душы?
Яшчэ бяда
　　сваё тварыла зло,
Ды і жыццё было —
　　прызнацца мушу —
Такім, як горш
　　і быць бы не магло.
Заместа вёсак —
　　голыя прагалы...
І тых, каму
　　не выпала жылля,
Ужо нічым
　　на месцы не трымала,
Апроч магілак,
　　родная зямля.
Дый то,
　　калі б адважнасці хапіла
Парушыць
　　векавечнасці спакой,

Забралі б
    і бацькоўскія магілы
Адсюль, як памяць роднасці,
    з сабой.
А іх, як тыя
    доўгія пагоркі,
Не забярэш...
    Без іх упрочкі едзь.
І ехалі...
    О, як было ўсім горка
Тады на іх,
    на бежанцаў, глядзець.
А што рабіць?
    Быў толькі сорак пяты,
Яшчэ ляжаў
    счарнелы цень вайны,
Яшчэ з людзей
    яна ўсё брала плату,
Нібы даніну
    нейкае віны;
Нібы наноў
    хацела перакроіць
Людскую долю
    ножнамі пакут...
І хоць смылела
    ранамі жывое,—
Не ўсё няўцешным
    выглядала тут.

Сыходзіў снег —
вясна шумела гаем,
Паводкаю,
кустоўямі ракіт.
Пасля грымот
упершыню над краем
Зашчабяталі мірна
жаўрукі.
Я не скажу,
што адбылося цуда,
А ўсё ж...
збылося нешта на зямлі:
І нават людзі —
я ілгаць не буду,—
Як тыя травы ў полі,
ажылі.
Ім нават лёс
не вельмі страшны здаўся —
У поле клікаў
зеленню прастор...
Тае ж вясны
ў Бягомелі застаўся,
З вайны вярнуўшыся,
паранены маёр.
Не болей сутак
гасцяваў ён дома,
Бо сам жа бачыў,
што жыццё — не рай.

Праз дзень ужо
інструктарам райкома
Абходзіў зону,
як пярэдні край.
Глядзеў на дзірваны
і папялішчы...
О, край бацькоў!
З газет на фронце знаў,
Што акупант
цябе паліў і нішчыў,
Але, каб гэтак...
Нават не гадаў.
Ад хат, садоў і гумнаў —
ані знаку,
Адзін палын...
Шчымліва не глядзі.
Хадзіў жа ты на ворага
ў атаку,
Цяпер ізноў у новую —
ідзі.
Бяда бяду
бядой загартавала,
І знай —
не здасца лёгенька яна...
Змагчы, адолець
беднасці навалу
Спатрэбіцца
інакшая вайна.

Лягчэй было
на фронце, як маёру;
Бо, стоячы ў акопах,
у вадзе,—
Усё ж ты бачыў,
дзе ён, страшны вораг,
Куды страляць.
А тут ён, тут ён — дзе?!
У роспачы не крыкнеш:
«Пакажыце!»
А вораг сам
не выставіць спіну...
Дзесь перапёлка
кліча ў рэдкім жыце:
«Спаць, спаць пара...»
Табе ж, брат, не да сну.
Бяссонне мучае
горш, чым пракляты ірад,
Упершыню
і зоры на вяку
Глядзяць з нябёс,
як вочы бедных сірат,
Што рады бульбе,
хлебу, агурку.
Ніхто на большае
ў нішчымніцы не меціць,
Бо ведае,
што большага няма...

Няма для вас —
блакад ваенных, дзеці...
Згушчаецца
за вокнамі туман.
Губляюцца
абрысы небакраю,
Хоць ад таго
не меншае пакут.
Супоняй чорнай
вечар заціскае
На шыі
лёсу чорнага хамут.
А некалі ж...
здавалася самому:
«Вось толькі скончу,
выйграю вайну,
Такім вярнуся
з фронту я дадому,
Што цэлы свет
адзін перавярну».
А тут...
І ўсім такое не пад сілу.
І тых «усіх»
няма адкуль узяць:
Па зонах партызанскіх
у магілах,
З блакады не вярнуўшыся,
ляжаць.

Іх не падымеш больш...
Адна надзея
На хлапчукоў, жанчын,
ды на сябе.
Пароўну з імі
бохан гора дзеліць,
Нічога не мінаючы
ў дзяльбе.
Яшчэ стараецца
бадзёрыцца на людзях,
Хоць выдае знямогу
сум вачэй.
Ужо і жонка ў роспачы:
— Што ж будзе?
Зусім аслаб,
ледзь ногі валачэ.
Падсілкаваць...
А чым? Калі і дома —
Расол ды бульба,
лепшага няма.
Шапоча восень
голаю саломай.
Нішчымна голай
будзе і зіма.
Барометр думання
не хіліцца да «ясна»,
Хоць на яго
ўсе вочы праглядзі.

...Сустрэўшы ў школе,
кладаўшчык калгасны
Сказаў, паспагададаўшы ёй:
— Зайдзі...
Магла б адмовіцца,
дык не хапіла ж сілы.
І чым цяпер
няёмкасць пагасіць?
Яшчэ ў жыцці
ніколі не прасіла,
А атрымалася,
што трэба папрасіць.
Зайшла...
Сябе такой безабароннай
А́дчула —
аж здзівіўся кладаўшчык:
— Ды вы не бойцеся —
усё ж яно... законна.
Урэшце ж муж —
інструктар нашай зоны,
Не збоку хто,
а свой жа працаўнік.
— Яно-то свой...
— Ды спажывайце смела:
Хто ж, як не мы,
павінен памагчы? —
І ёй ад слоў,
нібыта палягчэла,

Як бы знайшла
патрэбныя ключы.
«Напэўна ж, горш, чым ёсць,
ужо не будзе.
І покуль
не адолена бяда,
Павінны ж мы —
на тое мы і людзі —
У горы і ў няшчасці
спагадаць.
...Дадому прыцемкам
вярталася кабета —
У хатах скрозь
запальвалі святло.
Хоць не з пустым ішла,
і... не з-за свету,
А радасці сапраўднай
не было.
Нібы яе
глынуў вячэрні морак,
І разам з ёй
упэўненасць глынуў.
Як ні старалася
сама сябе бадзёрыць,
А адчувала
нейкую віну.
Зласлівы лёс
не спагадаў кабеце —

Каля суседскіх ідучы акон,
Учула, як прасілі
з плачам дзеці:
— Па скварачцы б...—
Не браў галодных сон.
А маці ў роспачы
сваім крывінкам хілым
Ужо тлумачыла,
відаць, не першы раз:
— Дайшла чарга...
Дык нам жа не хапіла...
Хапіла б...
Ці ж хавала б я ад вас?..
«Я ж ад дзяцей,
выходзіць, адарвала,
Пабольшыла
вялікую бяду...»
Ёй два кускі,
па кілаграму,
сала
Заважылі
не менш, як па пуду.
Аж узмакрэла...
Здаўся родны ганак
Сталом судовым,
толькі без суддзі...
І гэтак стала
страшна нечакана,

Хоць ты і ў хату тую
не ідзі,
Ў двары начуй...
Сабраўшы рэшту сілы,
Ўзышла на ганак,
як на эшафот.
«Хутчэй бы ўжо...» —
сама сябе маліла,
Сціраючы з ілба
халодны пот.
Магла схлусіць,
сказаць, маўляў, на рынку
Купіла ўсё...
Дык вочы ж не салгуць.
І ўжо сама
прызналася ва ўчынку:
«Таго, што ма́е збыцца,
не мінуць».
І, божа мілы,
што тады з ім стала:
Спярша збялеў ён,
потым — счырванеў...
— Ды будзь яно праклятым
тое сала,
Каб я яго
і згаладалы еў.
Хутчэй глыну я
голы даўкі камень,

Чым да такое ганьбы
дажыву! —
І абхапіў
у роспачы рукамі,
Як пры нясцерпных болях,
галаву.
Змрок вечаровы
сцяўся анямела,
Стаіўся,
як у цеснай клетцы леў,
Усё ўнутры
бурліла і кіпела,
Да горла падступаў
і браў за горла
гнеў.
Чаго чакаць?
Бяды не зменшыць восень,
Не заарэ
душэўных ран,
як меж...
Бязлітасным прысудам
ён выносіць
Сваё рашэнне:
— Заўтра ж занясеш!..
І аддасі сама
перад народам.
Ды не забудзься —
час на праўду строг —

Па накладной
да грама апрыходуй,
Каб папракнуць
ніхто нас
больш не мог.
Сказаў — адрэзаў,
слова не прыставіш.
Не павячэраўшы,
галодны ўклаўся спаць.
«Цяпер нічым
нічога не паправіш...
Ды каб жа ведала,
чым тое папраўляць...»
І захліпнулася рыданнямі:
«Што ж будзе? —
Хусцінка збілася,
спаўзла на край пляча.—
А як пасля
глядзець мне ў вочы
людзям?
Хіба ў сабакі
вочы пазычаць?
За што, за што мне
гэткая навала?»
Ў адказ маўчала
змрочная імгла...
І ёй хацелася,
каб ноч завекавала,

Каб раніца з світаннем
не прыйшла.
Але...
Спрадвек
спрадвечныя законы
Кіруюць часам.
Выблісну́ў прамень —
І ў вокны глянуў
чысты, незамглёны,
Без хмаркі
і без похмарачкі дзень.
Ён быў спакойны,
як само сумленне.
Яна ж,
не знаўшы ганьбы на раду,
Ішла цяпер
дарогай ачышчэння
З вузельчыкам пракляцця
на віду.
Ішла...
Нікога ўвагай не мінала.
І, каб зрачыся
плётак-злыбяды,
Пры стрэчы кожнаму
штораз апавядала:
Чаго ішла,
што несла
і куды.

Хвалілі, спачуваючы,
нябогу —
Яе ж не цешыла
людская пахвала...
Яшчэ ў жыцці
кароткая дарога
Такою доўгаю
ніколі не была.
Не помніла,
што большае казала
Кладаўшчыку,
апроч таго: «Прымі!»
Вярнуўшыся,
на ўслон без сіл упала
І залілася
горкімі слязьмі.
Усё на свеце
змізарнела, зблекла,
На ўсё глядзець
спакойна не магла...
Калі б зямное
існавала пекла,
Лічы, што там
ужо яна была.
Але і там
ёй не знайшлося ўцехі,
І там над ёй
вяршыўся гнеўны суд.

Адзін ратунак заставаўся:
«З'ехаць!
Абы-куды,
абы не тут, не тут!..»
...Яшчэ на прыцемак
не браўся дзень кароткі,
А ўжо, нібы
вужакі злыбяды,
Па хатах папаўзлі
пра сала плёткі.
Цяпер яго было
аж два пуды.
— То ж падзяліўшы пораўну,
па чэсці —
Па скварачцы
хапіла б на сяло...
— Дык жа, гавораць,
загадаў аднесці.
— Ат, для прыліку —
нейкіх два кіло,
А рэшту ж — не дурны —
сабе пакінуў.
«Сабе».— глынула крыўду
цішыня.
Не кожны ж мог
у гэтай мешаніне
Сам зразумець,
што праўда, што хлусня.

Маглі б засведчыць
　　праўду панятыя,
Але ж ніхто
　　за сведак іх не браў...
Затое ўжо
　　стараліся ўсе тыя,
Каму маёр
　　«пагрэцца» не даваў.
Што ж, словамі
　　язык не намазоліш —
Знароку бэсцілі яго
　　і так і сяк:
Маўляў, вярні
　　гразішчы чым паболей,
Глядзіш, не ўся адмыецца,
　　не ўся.
І ён, хто мог
　　на фронце ў наступленні
Адбіць любую
　　з ярасных атак,
Прыціх разгублена,
　　снаваў маўклівым ценем:
«Няўжо зрабіў
　　што-небудзь я не так?
Няўжо ў жыцці
　　што важнае парушыў,
Спрадвечнай мудрасці
　　парваў жывую ніць?»

Лягчэй змагацца
за чужыя душы,
Цяжэй сваю
ў нападках бараніць.
Нападкі ж,
як калдобы ў каляіне,
Адна ў адну
пераліvalі бруд...
«А можа, лепш
усё было пакінуць
Так, як было,—
не наклікáць пакут?
І, можа, усё
забылася б па часе,
Бо не такі ўжо ён
вялікі грэх...
Але ж бы чэсць
не тою засталася...
Занадта цвёрды
трапіўся арэх.
Зашмат успелі
накідаць камення,
Каб чыста ўсе іх
выграбці з душы...»
...За вокнамі
імжою дождж асенні,
Сцямніўшы даль,
ізноў зацерушыў...

Апалым лісцем
зажаўцеў падворак,
Нібыта некаму
ўсцілаў адгэтуль шлях.
Да горла спазмай
падступіла гора
І скрухаю
азвалася ў грудзях.
«На гэтым месцы
нельга заставацца».
Згадалася вайна...
Акопы, кавылі...
Было заўсёды
цяжка адрывацца
Перад атакай кожнай
ад зямлі.
І кожным разам
смела адрываўся ж.
«А тут?..
Хіба ж навекі тут прырос?» —
І новай яснасці
з палёгкай заўсміхаўся,
Знаў, што і там
не шмыгане ў абоз.
Апошні раз
кранула крыўда грудзі,
Вачэй не затуманіўшы
ў журбе,—

Ён пакідаў
на памяць гэтым людзям
Не горшыя ўспаміны
аб сабе.
Ён не лічыў
ад'езд свой —
аддаленнем
Ад сэрцаў іх,
да іх ён торыў пуць.
І верыў:
зерні
чыстага сумлення,
Што сеяў ён,
па часе прарастуць.
І збудзецца нарэшце
тое дзіва,
Якім людзей
не мог ён сам здзівіць.
...І вось любуюся:
яго жывая ніва
Пераліваецца,
у золаце шуміць.
І праца патыхае
гэткай сілай —
Не адарваць
у радасці вачэй!
І мо таму,
што ўсім тады хапіла,

Сягонняшнім райкомаўцам
лягчэй.
Лягчэй раўняць
былога каляіны,
Лягчэй чакаць
спаўнення ўсіх надзей:
Куды ні глянь —
машыны ды машыны,
Іх больш, здаецца,
чым саміх людзей.
Тады ж было
і рук мазольных мала,
Дый рукі тыя
млелі ад бяды.
Затое аж з ліхвой
перападала
Удоў, нястачы,
сірат і жуды.
І хоць ва ўсіх
вайна яшчэ балела,
Пакута працінала
да касці —
А не далі
зямлі адзірванелай
Яны густым бур'янам
зарасці.
Свае да рэшты
аддавалі сілы,

Ўзамен не просячы
спагады і цяпла.
Іх працаю
зямля людзей карміла,
Няхай упрогаладзь,
бо сытна не магла.
Часцей цяпер
лаўцы выгоду ловяць,
За ёй кідаюцца ў пагоню
з усіх ног...
А той, хто знаў
цану зямной любові,
Зямлю пакінуць
лёгка так не мог.
Той лёгкасці
яму б не даравалі
Натруджаныя ў працы
мазалі...
Таму ў пакутах
Людзі адрывалі
З крывёй сябе
ад роднае зямлі.
І колькі ж іх,
як дрэў, не прыжылося,
І першаю ж вясной
не расцвіло!
...Лісты счарнелыя
з галін страсае восень,

Нібыта з плеч
скідае долу зло.
А воддаль рунь
зялёная,
густая,
За рунню — ў сонцы
ельнік малады.
Сваім багаццем
хваліцца ўсё тая ж
Зямля, якой
цураліся тады.
Зямля, якая
і тады не мела
Перад людзьмі —
за беднасць іх —
віны,
Бо столькі год
без рупных рук галела,
Чакаючы збавення
ад вайны.
Зямля, якая,
сцяўшы боль у жылах,
Перш, чым бывай
на ростані сказаць,
Вачмі азёр
стуманеных прасіла
Яе адну з бядой
не пакідаць.

І колькі ў просьбе
стоенага жалю,
Тугі нясцерпнай,
хоць крычмя крычы!..
Яны ж яе
ўсё роўна пакідалі,
З сабой надзеі
толькі везучы.
Знясіленым,
было ім не да ўцехі,
Ды чым было
ў нястачы суцяшаць?
Таму хутчэй
хацелася ўжо з'ехаць,
Каб пра вайну
хоць там не ўспамінаць.
Бо хто ж, скажыце,
мог наперад ведаць.
Калі знікаў
радзімы далягляд,
Што ад саміх сябе
яны не з'едуць,
Што час настане —
вернуцца назад.
Зваротны шлях
ім высцеляць абрусам
Лугі мурожныя,
зялёныя лясы...

І мне не церпіцца:
а хто, а хто ж вярнуўся?
І я бяру ў людзей
іх адрасы.
І ні пра кога
ні слаўца няславы...
Маўляў, стараюцца —
не пакладаюць рук:
Хто — у Бягомелі,
а хто — на лесасплаве...
І без таго
хапіла ім навук.
Цяпер сваё
так лёгка не пакінуць
І не парвуць
жывой любові ніць...
І я спяшаюся
хутчэй да Кацярыны,
І мне пра ўсё
дазнацца ўжо карціць.
Адразу стома
лёгкая знікае,
Апошні поціск
дужае рукі.
...І ўжо абапал шляху
праплываюць
Узгоркі, ельнікі,
балотцы, хмызнякі.

Нібыта я
чужым нялёгкім следам,
Што ўпрочкі вёў,
нутро балюча пёк,
І сам адтуль,
з таго вяртання еду,
Забыты
паўтараючы урок.
І паўтараць
ніколі не пакіну:
Яшчэ ж агонь дарог
не дагарэў.
...А вось і вёска...
Вось і Кацярына.
— Вы да мяне?.. —
застыла на двары.
І разгубілася...
На шыі з хвалявання
Драбнюткa жылкі
тонкія дрыжаць:
Пра тое бежанства,
журботнае вяртанне
Цяпер і ёй
нялёгка ўспамінаць.
А можа, палахлівыя,
самохаць
Чаўнамі выплылі
здагадкі з даўніны:

А ці няма
якога тут падвоху?
Ці нават больш,
яе якой віны?
Ды колькі ў думках
ні перабірала,
А не знаходзіла
сваё якое зло.
Яна ж сяла
й тады не пакідала,
Калі яно
згарэўшае было.
Калі чарнеў
замест яго пагорак
З густым кустоўем
горкіх палыноў,
І ўвысь цягнулася
наўсцяж дымамі гора
З зямлянкавых
гліняных камінoў.
Дымы, дымы,
дымы да небакраю,
У слоту, ветранасць
ад іх не прадыхнуць.
Але штодня
сябе ты суцяшаеш,
Што не адна —
усе ў зямлі жывуць.

Ніхто з кабет
        сваёй не мае хаты —
Без рук мужчынскіх
        не прыдбаць вугла.
Таму, калі Васіль
        цябе пасватаў,
Ты самаю шчасліваю
        была.
На гэта шчасце
        ты ўжо мела права —
Дабро на вагах
        брала перавес...
Дапамагла
        пазыкаю дзяржава,
На новы зруб
        дала дармовы лес.
Пад звон сякер
        вясной рунела поле,
Пад звон сякер,
        што чуцен быў здаля,
Вярнулася з Нямеччыны,
        з няволі,
Дадому Хіма —
        маці Васіля.
Лічылася —
        і нам прыйшла падмога,
Падмога
        з лішняй торбай на плячы.

Хрыбет ды скура
у беднае нябогі —
Глядзі, гаруй
і ў горасці маўчы.
А звон сякер
душу жывую кроіць,
Пячэ балючай
памяццю бацькоў —
Не вернуцца,
загінулі ж абое:
На Фінскай — твой,
Айчыннай — Васілёў.
Абодва цеслі,
шчырыя ратаі.
О, як жа іх
цяпер вам нестае.
Няйнакш, як лёс
на слабых спаганяе
І злосць сваю,
і хітрыкі свае.
Спакойна ладзіць
хцівую расправу.
Свінцом ад дум
цяжэ галава.
А тут падходзіць
тэрмін і дзяржаве
Узятую пазыку
аддаваць.

Вось паспрабуй
сплаці спаўна сумленне...
У полі —
хоць кляні ці не кляні —
Радзіла густа
скрозь адно каменне,
Але ж за доўг
не бралі камяні.
З маркотаю
ўздыхае Кацярына:
— Калі б не тая
чорная бяда,
Ці ж мы рашыліся б
зямлю сваю пакінуць?
Ці ж нам яе
было ўжо не шкада?
І ці ж яе
мы ўсе не баранілі,
Калі чужынец
нішчыў і таптаў?
Яму крыжоў
унь колькі пры магілах
Панастаўляла
наша «дабрата».
Чаго-чаго,
а ім не шкадавалі!
Мы на крыжы магільныя
бяроз...

І ўсё ж... яе
нявінна пакідалі...
Калі ж паплыў
над лесам рып калёс,
Такую бабы
далі волю слёзам,
Як па нябожчыках
не плакалі ў вайну...
Хоць ехалі ж
ад бедства, ад нядолі
Ў багаты край пшаніц —
на цаліну.
І ведалі,
што нас па-людску прымуць.
Не пашкадуюць
ласкі і цяпла.
І ўсё ж...
зямлі бягомельскае Хіма
На памяць
у вузельчык узяла.
Няхай нішчымная — пясок,
але жывая,
Няхай з каменнямі —
затое дзіва з дзіў:
Як ад сябе
яна не адпускае!
Даруй, зямля,
і строга не судзі.

Павер: у іх
  ні чэрствасці, ні здрады,
Ні помсты за бясхлебіцу —
  няма.
Яны табе
  былі заўсёды рады,
Калі была ты
  шчодраю сама.
Калі магла
  сама даваць спакойна
І хлеб, і долю
  роўную для ўсіх...
Цябе ж ніколі
  не міналі войны,
І кожная
  з зямлі зганяла іх.
Сваю здаўна
  сама ты знаеш сілу —
Нядарам колас
  гнецца да зямлі...
Але ж... калі
  людзей ты не карміла,
Як затрымацца
  тут яны маглі?
На чым было
  трымацца той любові,
Што некалі прыкоўвала
  навек?

Даруй зняможаным
        і не лаві на слове —
Ад слоў не будзе
        сыты чалавек.
Яму штодня
        яшчэ і есці трэба...
А недзе ж там —
        адгэтуль не відна,—
Як стол, ляжала
        пад казахскім небам,
Някранутая плугам,
        цаліна.
Як сыты стол...
        Самой надзеі пробліск.
То ж пра яе
        вярбоўшчыкі не раз
Казалі:
        — Уваткні вясной аглоблю —
Пад восень вырасце
        з аглоблі тарантас.
Расхвальвалі —
        была таму прычына:
Сваёй сяўбе
        скародзілі раллю...
І вось сама
        нарэшце Кацярына
Убачыла
        хваленую зямлю.

Прастора-роўнядзь
аж да небакраю,
І хоць бы дзе
ці кусцік, ці лясок...
Стэп, што сцяна
павалена глухая,
Ідзеш па ёй —
і свой не чуеш крок.
Чым дальш ідзеш,
тым больш табе здаецца,
Што гэта сон,
а не жывая быль.
Крычы, гукай —
нічым не адгукнецца
Да нематы прывучаны
кавыль.
Спагадай-пошумам
цябе не заспакоіць —
Не родны лес...
А тыдні лічаць час.
Ужо і вам
кватэру ў два пакоі
Дае да свят Кастрычніцкіх
саўгас.
І на душы
нібы паспакайнела,
І стэп бязлесы
здаўся нечужым.

Падумалася:
вось і прыкіпела,
І хто згадае —
можа назусім.
І мужыкі ж ішлі,
бывала, ў прымы...
Хіба ж не здолею
сама прыжыцца я?
Адно вось толькі —
нешта бабка Хіма
Маўчыць і нудзіцца,
снуе, як не свая.
Нібыта плечы
цісне нейкі камень,
Туга няўцешная
стары туманіць зрок.
Спалохаўся Васіль:
— Што з вамі, мама?
— Відаць, не прыжывуся я,
сынок...
Не абманіла
бежанскае ліха,
Перахітрыла,
хітрае, мяне.
Таму штодня
і сохну я паціху —
Няйнакш, зямля бацькоўская
кляне.

І помстай
гэту кару пасылае...
— Ды што вы, мама? —
суцяшалі мы.
— Не суцяшайце, дзеткі,
не стрываю,
Не дацягну ў маркоце
да зімы.
Не радуюць
ні чыстыя харомы,
Ні сытасць,
ні дастатак у нудзе.
Ужо і ў снах
вяртаюся дадому —
Праполваю
гурочкі на градзе.
«Пакутніца...»
Зайшліся сэрцы жалем,
І самі бачым —
долі не мінуць.
Праз тыдзень
з Васілём яе сабралі —
І на вакзал...
Адну ў далёкі пуць.
Адну...
А сум, як той залом у жыце
Нявыжнены —
палохае душу.

— Вы ж, мама,
хоць адразу напішыце
І як, і што там...—
бедную працу.
Зазелянеў
кружочак семафора —
Паплыў, загойдаўся,
грукочучы, вагон.
А я стаю,
знямелая ад гора,
Адно ўвушшу
звініць шчымлівы звон.
Гляджу, як там,
у стэпе за вакзалам
Клубамі сцелецца
і чэзне белы дым...
І разумею:
нечага не стала
З таго, што тут
было яшчэ маім.
З таго, што вечна
родніць з родным краем
І без чаго
пакутна ў свеце жыць.
Відаць, лягчэй
мужчыны адвыкаюць —
Не так па стратах
сэрца іх баліць.

А мы ж сваё,
забранае разлукай,
З крывёю
адрываем ад грудзей.
Як па дзіцяці,
ў горы ломім рукі,
Спакою не знаходзячы
нідзе.
Як птушка птушанят,
перад навалай
Жыццё жыццём
імкнемся ратаваць...
Аж разрывалася душа,
калі чытала,
Як Хіма
свой узгорак цалавала,
Як з кожным дрэўцам
шчыра размаўляла
І як клялася
іх не пакідаць.
Чытала — і сама ўжо
з ёю побач
Па той зямлі,
як цень яе, ішла,
Не бачачы камення
і калдобаў,
Не тоячы
ні крыўды і ні зла.

Душэўны сум —
далёкі белы бусел,
Кружыў і клікаў
з выраю мяне...
Я зразумела:
тут не застануся...
Не!
Не!
А стэп маўчаў,
глынуўшы крыку рэха,
Як бы чакаў
праклёнаў ці пагроз.
...Дарожку дывановую
на ўцеху
Васіль праз тыдзень
з вобласці прывёз.
Як луг, зялёная...
Гляджу і сэрцам бачу
Яе,
сваю далёкую зямлю...
І ўжо, шчаслівая,
сама яму тлумачу:
— Я там дарожку...
дома пасцялю.
І схамянулася:
хіба ж я тут — не дома?
Дык дзе ж тады
мой дом, маё жытло?

Каму разлука
доўгая знаёма,
Той зразумее,
што са мной было.
Здавалася,
тугою па радзіме
Аж цела працінала
да касці...
А тут і сын:
«Хачу да бабкі Хімы...»
Дня не мінае —
просіцца: «Пусці».
— Заблудзішся ж,—
для віду жартавала,
Хаваючы
нясцерпную тугу,
А ён мне: «Мамачка!
Ды я ж туды па шпалах,
Па шпалах
пабягу і пабягу...»
І ўжо самой мне
бачыцца, паверце,
Як ён бяжыць —
хоць побач жа стаім,—
Ад хвалявання
гэтак б'ецца сэрца,
Нібы і я...
услед бягу за ім.

А ўперадзе
ўсё шпалы,
шпалы,
шпалы...
І кожная —
на вымераны крок.
Іх тысячы!
О, толькі б не адстала —
Інакш адзін
заблудзіцца сынок.
Не дабяжыць
да добрай бабкі Хімы...
Здавалася б,
зусім яшчэ дзіця,
А і яму
карцела на радзіму.
І стала мне
тады не да жыцця...
Заплюшчу вочы —
бачу шпалы, шпалы...
Расплюшчу — стэп,
як шэрая імгла...
Калі ж яшчэ
і Хіма напісала,
Што захварэла,—
больш я не магла.
Бывала —
адгаворваюць суседзі:

Я слухаю, згаджаюся,
цярплю...
А ўвечары:
«Паедзем ды паедзем...» —
Настырна ўводжу
ў вушы Васілю.
Сказаў бы хто,
дык не дала б я веры —
Ад сытасці —
у прагаладзь ізноў?..
Ужо ж саўгас
нам большую кватэру
Даваў, а я:
«Дамоў, дамоў, дамоў...»
Здаецца, затрымайся —
і парвецца
Апошняя
танюсенькая ніць —
І ўжо тады
нічым не ўсцешыш сэрца...
А сэрца ж
не прывучана маніць.
Яго сама
ашуквала гадамі
І ашукаць
манoю не магла...
Зямля, якую
босымі нагамі

З маленства вызнала,
з-за свету б прывяла.
Як ні старалася,
а ў тым багатым краі
Свайго гнязда
не здолела я звіць.
Не кожнае ж і дрэўца
выжывае,
Калі яго
не так перасадзіць.
...Пакутліва
ўздыхае Кацярына
І скрозь тугу,
што ўспыхвае ўваччу,
Туманяцца
далёкія ўспаміны.
Маўчыць яна...
І, сумны, я маўчу,
Гляджу, як вулачкай
бягом бяжыць ад крамы
Той, што па шпалах
бег бы ў родны край.
І кліча голасна здалёку:
— Мама! Мама!
Тавар прывезлі —
хуценька прымай!..
Як на далоні,
ўсё перад вачыма:

Усеўшыся на зэдліку
    ў кутку,
Старанна чысціць бульбу
    бабка Хіма,
Як і штодня
    і вечна на вяку.
Раз-пораз кіне
    позірк вінавата,
Хоць ані ў чым
    няма яе віны.
А ад стала,
    пасланая ўдоўж хаты,
Ляжыць дарожка
    тая, з цаліны.
Ляжыць часцінкай
    далечы знаёмай,
Прывезенай
    для ладу і дабра.
...Мой круг завершаны.
    Цяпер і мне дадому
З вандроўніцтва
    няхітрага пара.
Ужо й мае
    цярплівыя хвіліны
Нашэптваюць настырна:
    «Ад'язджай!»
Бо і табе ж
    належыць з успамінаў

І свой сабраць,
як з поля, ураджай.
Перацярпець
і горасць долі горкай,
І на пакуты
ўзважыць тыя дні.
...Бяжыць шаша,
а па баках — пагоркі
І мора
нечапанай цішыні.
Сваё ў лясах
зязюля адкувала,
Спакой не парушае
і жаўна.
А некалі ж і тут
усё стагнала,
Калі вяршыла
страшны суд вайна.
І сіла перад сілай
адступала,
Ўцякаючы ад чорнае
бяды.
Адна зямля
нікуды не ўцякала.
Куды ж было ёй уцякаць?
Куды?
Хіба магла
з сабой забраць палеткі?

А не магла —
яе не цешыў зман.
І вось яна —
я сам цяпер за сведку —
Гайдае руні
новы акіян.
У радасці,
бязмежнасці
гайдае,
Давольная
стараннасцю сваёй.
Яна ў жыцці
нявернай не бывае,
Не будзь і ты,
ратай,
няверны ёй.
Не дапускай
і ў слабасці прамашкі —
На тое ж людзі
лічацца людзьмі,—
Калі зямлі
бывае вельмі цяжка,
Ты сам хоць частку
цяжару прымі.
Калі яе —
ад холаду калоціць,
Ты прытулі,
сагрэй сваім цяплом,

І, ведай,
што яна
за ўсё заплоціць,
Аддзякуе і ласкай
і дабром.
Зямля —
твой лёс,
твая жывая доля —
Любі ж яе,
сябе ўсяго
аддай,
Што б ні было на свеце,
а ніколі
Адну ў бядзе
яе не пакідай.
А здуру кінуў,
мужнасць май —
вярніся.
Калі ж палае
родная ў агні,
Як за сябе самога,
заступіся —
Абарані яе,
абарані!
Ірдзеюць мірна хай
заходы і світанні,
І не стамляе
жорсткая жарства

Дарог і сцежак людзям
для вяртання,
Для добрых спраў,
любові,
хараства.

*1974—1975*

ЗМЕСТ

## 1

2

Н а б е л о р у с с к о м я з ы к е
*Александр Николаевич Бачило*
БЕЛЫЙ БЕРЕЗНЯК

Рэдактар
Хв. М. ЧЭРНЯ

Мастак
У. І. ШОУК

Мастацкі рэдактар
М. Р. КАЗЛОЎ

Тэхнічны рэдактар
Т. М. СОКАЛ

Карэктар
Я. Ф. ХАРКО

АТ 21034. Здадзена ў набор 17/XI 1975 г. Падп. да друку 9/III 1976 г. Тыраж 6000 экз. Фармат 60×108 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7,20. Ул.-выд. арк. 4,91. Зак. 2778. Цана 71 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, Мінск, Чырвоная, 23.

**Бачыла А.**

Б 32 Белы бярэзнік. Вершы і паэма. Мн., «Маст. літ.», 1976.

192 с. з іл.

У цэнтры ўвагі аўтара — душэўны свет чалавека, за плячыма ў якога не адна дарога. На іх былі і свае ўцехі і свае засмучэнні. Роздум над імі, высвятленне жыццёвага ідэалу і складаюць змест твораў паэта, што ўваходзяць у гэты зборнік.

Б $\frac{70403\text{-}112}{М\ 302(05)\text{-}76}$ без аб'явы. Бел 2